ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 33** 15 жніўня 1996 г.

(2487) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ВОСТРАЎ ПАМЯЦІ НА СВІСЛАЧЫ






**У Мінску адбылося адкрыццё храма-помніка воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане.**

**Калі метраном адлічвае імгненні смутку, а шэры камень помніка патанае ў кветках, калі згадваюцца тыя, хто загінуў на далёкіх перавалах ці вярнуўся з той вайны калекам, разумееш: перад памяццю ўсе аднолькавыя, як тыя слязінкі, што набягаюць у такую хвіліну.**

**На шэрым камені надпіс: "Сынам, загінуўшым у Афганістане, узведзены гэты храм-помнік па даручэнню беларускіх маці, якія не жадаюць, каб зло панавала ні на сваёй, ні на чужой зямлі".**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 5-й стар.).*

*ПАСЛЯ МАКСІМАВАГА СВЯТА Ў РАКУЦЁЎШЧЫНЕ*

## "МНЕ ДОЎГАЕ РАССТАННЕ З ВАМІ..."

**"Ракуцёўскае лета" -- гэтакую назову мае свята паэзіі і песні, прысвечанае Максіму Багдановічу, якое штогодне расхінае абярожныя крылы над вёскай Ракуцёўшчына, дзе калісь гасцяваў Паэт у сваіх сяброў. Ракуцёўскае лета разгарнула над усёй, здавалася, Беларуссю сцягі Незалежнасці, Веры, Узнясення 27-га ліпеня. Нібыта на споведзь перад часам, перад айчыннаю бытнасцю і наступнасцю, прыехалі сучаснікі да філіі музея Максіма Багдановіча -- з Мінска, Маладзечна, навакольных вёсак. Прыехалі з дня турботнага сённяшняга ў светлае каралеўства Паэзіі, дзе голас Максіма-кніжніка спавіваўся перавяслам упэўненых, годных радкоў спадчыннікаў-творцаў. Словы падзякі і пашаны да Максіма Багдановіча, да ягонага подзвігу жыць Радзімай удалечы ад Радзімы, вынітоўваць-выпрадаць праменную матуліну мову з глыбіняў генетычнае памяці і ўзорыць на ёй сусветнае вышыні і дасканаласці творы, зернямі праўды сеяліся ў ваколле. Каб узысці коласам еднасці Паэта і Народа.**

**Свята адкрыў дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча навуковец-даследчык Алесь Бяляцкі, падкрэсліўшы значнасць і непаўторнасць таленту Багдановіча ў літаратуры, уплыў ягоных твораў на жыццё, на лёс, на свядомасць нацыі. А дырэктар Гродзенскай філіі музея паэтка Данута Бічэль-Загнетава дапоўніла: "Шчаслівы, багаты народ, які мае Багдановіча. Шчаслівы чалавек, які пачуў-адчуў прысутнасць Паэта -- Багдановіча, Цёткі -- у сваім жыцці і лёсе".**

**І раскрыліся да свету, да люду, да веку з новаю моцаю, з новаю гожасцю "Краскі, свежыя калісьці, Думак шчырых і чуцця". Раскрылася, нібы чароўны куфар, нашая беларуская здольнасць святкаваць -- спяваць і гаварыць наросхрыст, аддаваць светлыню з донца народнае душы. Раскрылася, нібыта на Божай далані пупышка, нашая немінучая праўдзівая прачыстая воля, воля быць сабою ў свеце.**

**...Праз крыжы кроквай на ўзведзенай каля Максімавай хаты будыніне гумна сачылася жывіцаю непераможнае сонца. І наплываў у цянётах Максімавых прысадаў роздум -- пра Паэта, пра край, пра нас, пра долю беларускую. Пра чуйнасць творцы: можа, недарэмна Бог забраў Багдановіча з Беларусі ў год рэвалюцыі, а Купалу -- у ваенны 1942-гі? Можа, гэта папярэджанне нам? Ахова? Заклік да Любові?**

Сплылі вякі, нібы вянкі. На плыні дзён -- пазнакі. Чакала Вашае рукі. Жыццё было ніякім... Сышла бяда, нібы вада, -- і набрыняла поле... Я вас нікому не аддам, не стрэціўшы ніколі... І лёс рукі не адвядзе, сцяжынаў не заблудзіць. Бо Вас не знойдзеш анідзе. Бо Вас няма й не будзе... Святочны дзень. Самотны цень. І надпіс: "Вераніка". Усё красуе і расце. Усё аднойчы знікне. Каралі слоў... Карункі сноў... І Ваша зорка -- Слова. А праз вякі шукае зноў Душа сваю палову...

Радкі гэтыя не прасіліся на паперу. Ім было вольна ў Максімавай празрыстай прасторы, дзе счапіліся думы вякоў. Ім было хораша ціхутка поўніць Максімаў пакойчык у Ракуцёўшчыне, дзе мроілася Паэту ягоная нябесная Вераніка -- прыгожая прыдумка ці шчаслівая рэальнасць. Радкі гэтыя прыйшлі да мяне знянацку, як водбліск журботнага і прасветленага Максімавага пошуку — пошуку свае таемнае часцінкі ў супярэчным свеце, якая пачула б і зразумела б, "як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць". Якая, можа, сцішыла б ласкавасцю і пяшчотай "за краіну радзімую жах", можа, чуйна падказала б збалелай Паэтавай душы, "дзе шляхі" нашы "йдуць і куды"...

"Дзе шляхі вашы йдуць і куды?" -- спытаўся Паэт разгублена і роспачна-трывожна на пачатку стагоддзя. Спытаўся ў дзяцей свае Айчыны, варожачы, ці неўздагон ім панесліся коні "Старадаўняй Літоўскай Пагоні", якую "не разбіць, не спыніць, не стрымаць".

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

**З** УДЗЯЧНАСЦЮ прымаю запрашэнне рэдакцыі ў ліпеньскім нумары "Голасу Радзімы" да дыскусіі і цалкам падзяляю яе заклапочанасць сур'ёзнасцю і складанасцю таго становішча, што складваецца ў беларускай гістарыяграфіі. Як я зразумела са змешчанага ў газеце інтэрв'ю з першым намеснікам галоўнага рэдактара Беларускай энцыклапедыі П. Петрыкавым, ён не пагадзіўся з думкай рэдакцыі, што сёння на першы план беларускай гістарыяграфіі выходзіць новая навуковая школа з прынцыпова іншымі падыходамі і метадалогіяй у параўнанні з той, што існавала апошнія 3--4 гады. І тут я поўнасцю з ім згодна, бо ідзе проста вяртанне да той практыкі, калі гісторыкі (ды і ўвогуле гуманітарыі) абслугоўвалі палітыку таталітарнай сістэмы, а таму казаць пра нейкія новыя падыходы і метады не выпадае. Няхай чытач зробіць уласныя высновы хоць бы на падставе маіх дачыненняў з новым кіраўніцтвам БелЭН як аднаго з аўтараў 3-га тома Беларускай гістарычнай энцыклапедыі. Гэты том, па словах Пятра Ціханавіча, знаходзіўся ў карэктуры, у яго (як і першы том новай "Энцыклапедыі Беларусі") унесены ўдакладненні са згоды аўтараў, і ў бліжэйшы час чытачы пазнаёмяцца з ім. Шчыра парадуюся яго выхаду з друку, але пры гэтым хачу паразважаць: чаму новапрызначанаму кіраўніцтву спатрэбілася вяртаць том з выдавецтва і ўносіць "удакладненні", дабіваючыся згоды на тое аўтараў? Чым жа ўвогуле былі тыя "ўдакладненні" -- яшчэ адным рэдагаваннем, рэцэнзаваннем ужо завершанага тома, а можа звычайнай цэнзурай? Напачатку я атрымала вёрстку артыкула "Гісторыя Беларусі ў даследаваннях беларускай эміграцыі" з ужо зробленымі выкрэсліваннямі, згоды на якія ў мяне ніхто не пытаўся. Я аднавіла праведзеныя невядома кім "удакладненні" (у рэдакцыі гісторыі Беларусі не змаглі мне патлумачыць) і вярнула артыкул. Пазней па вёрстцы артыкула "Дыяспара беларуская" чакаемыя ад мяне "ўдакладненні" ўжо былі толькі пазначаны "птушачкамі". Мусіць да рэцэнзентаў дайшло, што аўтарскія правы трэба паважаць ці хаця б знешне захоўваць правілы.

**ДЫСКУСІЯ**

## ЧАС СКІНУЦЬ «АСЛІНУЮ ШКУРУ»

**(Заканчэнне на 3-й стар).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ*

### ПРЭЗІДЭНТ ЗРАБІЎ ШЭРАГ ЗАЯЎ

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка 7 жніўня ў сваёй рэзідэнцыі правёў сустрэчу з журналістамі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА, у час якой зрабіў шэраг заяў па найбольш важных момантах палітычнага жыцця рэспублікі.

Выказваючы думку аб прапанаванай пэўнымі палітычнымі коламі ідэі правядзення "круглага стала", за якім павінны сабрацца прадстаўнікі найбольш уплывовых палітычных партый, рухаў і плыняў, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што не атрымаў афіцыйнага запрашэння прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. Далей Прэзідэнт заўважыў, што цяпер наогул не бачыць у гэтым "круглым стале" ніякага сэнсу. Ён выказаў упэўненасць, што беларускі народ будзе праяўляць разважлівасць, адзінства, працавітасць, згуртаванасць. Кіраўнік дзяржавы крытычна ацаніў чуткі, якія ўпарта раздуваюцца аб быццам бы нарастаючай у рэспубліцы "нязгодзе" сярод народа, назваўшы гэты тэрмін звычайным лозунгам палітыканаў.

"Я запрашаю ўсе партыі, грамадскія рухі, плыні, якія сёння зацікаўлены ў сапраўднай нацыянальнай згодзе, у эканамічнай магутнасці нашай дзяржавы, -- заявіў Аляксандр Лукашэнка, -- сесці за мой стол -- круглы або квадратны ён будзе, гэта зусім не важна -- для абмеркавання эканамічнага курсу нашай краіны, выкладзенага ў распрацаванай па даручэнню Прэзідэнта праграме, канчатковае ўзгадненне якой павінна адбыцца 15 жніўня".

Для рэалізацыі гэтай праграмы, як падкрэсліў далей Прэзідэнт, патрэбна адпаведная нарматыўна-заканадаўчая база. Менавіта яе створаць пэўныя змяненні ў дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Але спачатку, на думку Аляксандра Лукашэнкі, прапанаваныя ім змяненні павінны атрымаць ацэнку на агульнанародным рэферэндуме.

Аляксандр Лукашэнка растлумачыў сэнс некаторых паправак да Канстытуцыі, у неабходнасці прыняцця якіх, ён упэўнены, народ з ім згодзіцца. У прыватнасці, з Вярхоўнага Савета плануецца сфарміраваць Палату прадстаўнікоў і Сенат.

*РЫНАК ПРАЦЫ*

### НЕБЯСПЕЧНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ

Тэндэнцыі, што існуюць на рынку працы Беларусі, змешчаны ў штогадовай справаздачы Сусветнага банка аб сусветным развіцці, прысвечанай працоўным рэсурсам ва ўмовах глабалізацыі эканомікі. Адназначнае зняжэнне рэальнай заработнай платы на 43 працэнты ў 1995 годзе ў параўнанні з 1990-м, рост запазычанасці па зарплаце, павелічэнне колькасці беспрацоўных (афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў 1995 годзе -- 9,5 працэнта, яўнае беспрацоўе дасягнула ўзроўню краін Заходняй Еўропы), катастрафічны рост колькасці беднага насельніцтва (з 2 працэнтаў у 1992 годзе да 40 працэнтаў у 1995 годзе).

Да змянення існуючага становішча, адзначыў кіраўнік беларускага прадстаўніцтва СБРР К. Уілобі, зыходзячы з вопыту іншых краін, мэтазгодна пераразмеркаваць працоўныя рэсурсы ў сферы з больш высокай прадукцыйнасцю працы і попытам на рабочую сілу.

*ВАКЗАЛ У ЖЛОБІНЕ*



Новае аблічча пасля рамонту набыў Жлобінскі вакзал. Цяпер тут дзейнічае зала для транзітных пасажыраў з шырокім асартыментам паслуг для іх, каса папярэдняга продажу білетаў. І ўвогуле вакзал, што з'яўляецца візітнай карткай горада, стаў адпавядаць свайму прызначэнню.

НА ЗДЫМКУ: Жлобінскі вакзал.

*АДУКАЦЫЯ*

### НОВАЯ НАВУЧАЛЬНАЯ ЎСТАНОВА

Да апошняга часу журналісцкія кадры рыхтаваў адзіны ў рэспубліцы факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Але зараз у Беларусі пачалі выходзіць сотні новых дзяржаўных і незалежных выданняў, адсюль -- недахоп кваліфікаваных журналісцкіх кадраў. Адміністрацыя журфака БДУ стварыла на базе Інстытута сучасных ведаў новую навучальную ўстанову, дзе будуць рыхтаваць журналістаў шырокага профілю, але з ухілам падрыхтоўкі журналістаў-міжнароднікаў.

Акрамя традыцыйных журналісцкіх дысцыплін на новым факультэце шмат увагі будзе нададзена вывучэнню замежных моў і прафесійнаму авалоданню камп'ютэрам. Заняткі будуць весці не толькі прафесары і дацэнты БДУ, Інстытута сучасных ведаў, але і вядомыя журналісты-практыкі, што працуюць у найпапулярнейшых выданнях рэспублікі.

*НА СУМЕСНЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ*




Пяцьдзесят гадоў праслужыць дах з рубероіду, які пачалі выпрабляць на сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве "ДіБ-будматэрыялы", што дзейнічае ў акцыянерным таварыстве "Кровля" (былы Асіповіцкі кардонна-рубероідны завод).

Рубероід, які выраблялі тут раней, "служыў" не больш 5 гадоў. Тэрмін службы новага матэрыялу павялічыўся ў дзесяць разоў. Дасягаецца гэта дзякуючы змяненню тэхналогіі вырабу і прымяненню новых асноў -- шклотканіны, палімераў. Праведзеная рэканструкцыя цэхаў прадпрыемства дазволіць выпускаць у год 12 мільёнаў квадратных метраў трывалага і лёгкага пакрыцця.

НА ЗДЫМКУ: прадукцыю прадпрыемства дэманструе аператар Валянціна ПЕТРУШКЕВІЧ.

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*

### НЕ ХАПАЕ ДЗЯЦЕЙ

Дзіцячую паліклініку N 2 -- адзіную ў Цэнтральным раёне Мінска -- збіраюцца закрываць. Цяпер яна абслугоўвае больш за 15 тысяч дзяцей. Бацькоў цалкам задавальняе якасць медыцынскай дапамогі, якую тут аказваюць, і, натуральна, вельмі непакоіць перспектыва пераразмеркавання па іншых установах.

У апошнія 3 гады ў Мінску закрыта 4 установы -- 8-я, 11-я, 18-я, 21-я дзіцячыя паліклінікі. Цяпер у чарзе на закрыццё 2-я паліклініка і яшчэ 5-я -- у Серабранцы, "густанаселенай" дзецьмі.

Да таго, што дзіцячая ахова здароўя заўсёды у нас фінансавалася па рэшткаваму прынцыпу, здаецца, даўно ўжо прывыкчаліся.

Але сёння гэтая тэндэнцыя набывае пагражальны характар. Некалькі гадоў назад рэфармаваць вышэйшую медыцынскую адукацыю ў Беларусі пачалі... з ліквідацыі педыятрычнага факультэта. Потым адкрыўся ў Мінску цудоўны дзіцячы кансультатыўна-дыягнастычны цэнтр -- і ў паліклініках, што побач з домам, пачалі закрывацца кабінеты "вузкіх" спецыялістаў.

Калі і далей дзяцей у нас будзе нараджацца ўсё менш і менш -- ці не застанецца тады на ўсю беларускую сталіцу адна, але вельмі-вельмі вялікая паліклініка!

*ПРАФСАЮЗЫ*

### ВОСЕНЬ ПРЫНЯСЕ ЗАБАСТОЎКІ?

У сталіцы Беларусі адбылося чарговае расшыранае пасяджэнне каардынацыйнага савета прафсаюзаў прамысловасці з удзелам старшыняў прафсаюзных камітэтаў усіх буйных прадпрыемстваў Мінска.

У якасці асноўнага пытання разглядаліся вынікі абмеркавання ў пярвічных прафсаюзных арганізацыях звароту да ўсіх працаўнікоў наёмнай працы. У звароце змяшчаўся шэраг патрабаванняў да кіраўніцтва рэспублікі па паляпшэнню сітуацыі ў прамысловасці. У выпадку іх невыканання прафсаюзы маюць намер пачаць падрыхтоўку да правядзення агульнарэспубліканскай забастоўкі і мітынгу.

На пасяджэнні канстатавалася, што практычна ўсе працоўныя калектывы, у якіх былі абмеркаваны зварот, падтрымалі прапановы каардынацыйнага савета. Характэрна, што ўсе яны настойваюць на правядзенні менавіта агульнарэспубліканскіх акцый пратэсту.

*МІЖНАРОДНЫ ПРАЕКТ*

### БЕЛАРУСЬ -- ШВЕЦЫЯ

Літоўская дзяржаўная кампанія "Lietuvos Telecomas" і шведскі канцэрн "Telia AB" падпісалі пратакол аб намерах, які прадугледжвае пракладку 220-кіламетровага падводнага валаконна-аптычнага кабеля паміж літоўскай Клайпедай і шведскім востравам Готланд. Гэты праект, рэалізацыя якога ацэньваецца ў 8-10 мільёнаў долараў ЗША, будзе фінансавацца шведамі. Прадстаўнікі "Telia" зацікаўлены ў перадачы інфармацыі транзітам праз Літву ў напрамку Беларусі, Расіі і іншых краін СНД. У чэрвені гэтага года Літва і Беларусь падпісалі пратакол аб супрацоўніцтве пры пракладцы валаконна-аптычнага кабеля з Вільнюса ў Мінск. Калі праект будзе ажыццёўлены, Літва зможа прапанаваць Беларусі камунікацыйны транзіт у Швецыю.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЗВЫШ ста фальшывых банкнот канфіскавалі сёлета з абарачэння касавыя работнікі фінансавых устаноў рэспублікі. У асноўным гэта амерыканскія долары, але ёсць і фальшывыя нямецкія маркі, рускія рублі, англійскія фунты стэрлінгаў, французскія франкі, швейцарскія кроны, іспанскія песеты і нават беларускія разліковыя рублі.

СТАРШЫНЯ Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі разам з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом ЗША Кенетам Ялавіцам пабывалі на Навагрудчыне. Паслу, па яго сведчанні, было цікава і карысна бліжэй пазнаёміцца з побытам і працай беларусаў. У музеях Адама Міцкевіча і краязнаўчым, дзе пабывалі госці, экскурсіі былі праведзены на добрай англійскай мове.

ПРАЗ ГОД пасля вынясення рашэння суда выкананы прысуд аб выключнай меры пакарання ў адносінах да Ігара Міранкова, злачынцы, які на працягу 1994--1995 гадоў выкрадаў, гвалціў і забіваў у Светлагорску малых дзяцей.

Усяго з пачатку года ў рэспубліцы выканана 20 смяротных прыгавораў.

У ТРАДЫЦЫЙНЫМ Эдынбургскім фестывалі ўдзельнічаюць два тэатральныя калектывы Мінска -- "Вольная сцэна" і "Дзе-Я?". "Вольная сцэна" паказа "Макбета". "Дзе-Я?" прадставіць два аднаактовыя спектаклі па творах Францішка Аляхновіча "Круці", "Чорт і баба". Беларуская мова (шэкспіраўскага "Макбета" пераклаў Аляксей Дударау) зноў загучыць пад небам туманнага Альбіёна...

КАЛЯ ВЁСКІ Чэрнічы Жыткавіцкага раёна ўдзельнікі археалагічнай экспедыцыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі выявілі амуніцыю воіна, а таксама прадметы быту і рэшткі гаспадарчых пабудоў X--XIV стагоддзяў. У гэтай беларускай вёсцы ўпершыню выяўлены і сляды майстэрні па вырабу кафлі.

МАЗЫРСКАЯ прамыслова-гандлёвая фірма "Надэкс" (а гэта лёгкае жаночае адзенне) супрацоўнічае з нямецкімі фірмамі. Тры з іх пастаўляюць у горад на Прыпяці тканіну, ніткі, фурнітуру і атрымліваюць ад мазыран гатовае адзенне. Нядаўна чацвёртая нямецкая фірма зрабіла калектыву "Надэкса" заказ пашыць форменнае адзенне для паліцэйскіх. Выкананне яго дасць мазыранам стабільную занятасць і папраўвіць іх фінансавае становішча.

32 з 78 ПРАМЫСЛОВЫХ прадпрыемстваў Гомеля, што дапусцілі спад аб'ёмаў вытворчасці ў першым паўгоддзі 1996 года, пераходзяць на планавае вядзенне гаспадаркі. З дапамогай такой меры кіраўніцтва горада спадзяецца да канца года скараціць колькасць адстаючых прадпрыемстваў не менш чым у два разы.

*АХОВА ПРЫРОДЫ*



Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік аб'ядноўвае тэрыторыі Нараўлянскага, Хойніцкага і Брагінскага раёнаў, у якіх узровень радыяцыйнай забруджанасці перавышае дапушчальныя нормы. Тым не менш, мясціны гэтыя, як магнітам, прыцягваюць да сябе аматараў лёгкай нажывы: рыбаловаў з электравудамі, паляўнічых на ласёў, дзікоў, казуль, якіх у запаведніку нямала. Заслонам браканьерству становіцца рэйдавая брыгада, якая некалькі разоў на тыдзень вылятае на верталёце. Акрамя лясных пажараў, яна вядзе назіранні і за жывёламі, і за тымі, хто наладжвае забароненае паляванне.

НА ЗДЫМКУ: галоўны спецыяліст адміністрацыі зон адчужэння і адсялення па Хойніцкаму раёну Уладзімір ХАЛЮШКОЎ, інжынер па ахове лесу Аляксандр ЛЕУШ і ляснічы Ігар ШКУТ адпраўляюцца ў рэйд.

## ВЫСТАВЫ






Выстава "Фуджы Прэс-фота-95" адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. На ёй прадстаўлены лепшыя рэпартажныя работы вядучых фатографаў свету з Італіі і Партугаліі, Швецыі і Германіі, Бельгіі і Англіі, многіх іншых краін. Яны зрабілі свае рэпартажы ў гарачых кропках планеты. Мовай фатаграфіі рэпарцёры расказалі аб падзеях у Югаславіі, Чэчні, Анголе і Палесціне. Прыродныя катаклізмы і катастрофы, спорт, нацыянальныя традыцыі і чалавек у самых нечаканых сітуацыях -- усё гэта ў фотаработах, прадстаўленых гледачам фірмай "Белэксфільм".

НА ЗДЫМКАХ: на выставе "Фуджы Прэс-фота-95"; работа Міндаўгаса КУЛЬБІСА (Літва) "Чэчня-95".

# ЧАС СКІНУЦЬ "АСЛІНУЮ ШКУРУ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Палічыўшы, што ад мяне патрабуюцца неабгрунтаваныя праўкі, пры гэтым пасля праходжання афіцыйнага рэцэнзавання, рэдагавання і здачы тома ў вытворчасць, я заявіла аб нязгодзе з падобнай практыкай, напісала тлумачэнні па кожнаму "ўдакладненню" і звярнулася з просьбай да галоўнага рэдактара БелЭН Генадзя Пашкова разгледзець іх на рэдкалегіі тома. Адразу скажу, што мяне (як і іншых аўтараў, якія не пагадзіліся з праўкамі) не запрашалі на пасяджэнне. Ды і сабралася рэдкалегія не ў тым складзе, што падрыхтавала том, а ў новым (толькі двое ранейшых членаў засталося), неяк ціха прызначаным пастановай Дзяржкамдруку. Не толькі для аўтараў, але нават для рэдакцыі гісторыі Беларусі гэта стала нечаканай навіной. Па словах прысутных, П. Петрыкаў на гэтым пасяджэнні не зачытаў мае аргументы, а толькі паведаміў, што паступілі лісты ад аўтараў, якія не згодны з праўкамі, і далей ужо выказваў сваё меркаванне.

Што ж аказалася непажаданым у маіх артыкулах, якія, дарэчы, чытаў былы галоўны рэдактар, які заўчасна пайшоў ад нас у вечнасць -- Барыс Сачанка, выдатны знаўца не толькі гісторыі Беларусі, але і беларускай эміграцыі, пра якую напісаў першую ў нас працу. Пазначаныя "птушачкамі" былі такія азначэнні, як таталітарная сістэма, гвалтоўная калектывізацыя, сталінская прапаганда, русіфікацыя (да якой прыводзіў прасавецкі, пракамуністычны кірунак некаторых арганізацый у ЗША і Аргенціне), радкі аб агрэсіўным нацыянальным нігілізме кіраўніцтва БССР (у 80-я гады) і інш. Былі адзначаны і, мусіць, няйнакш, як русафобіяй падаліся канстатацыі таго, што двойчы толькі на працягу стагоддзя (у час паўстання Б. Хмяльніцкага, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654--1667 гадоў і Паўночнай вайны 1700--1721 гадоў) насельніцтва Беларусі скарачалася напалову: кожны другі жыхар загінуў або трапіў у палон, быў выселены ў Расію; анексія беларускіх зямель Расіяй у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, а таксама радкі аб далучэнні да РСФСР у 1919 годзе Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў, аб перадачы Літве віленскага краю ў 1939 годзе. Апошнія заўвагі мяне ўвогуле вельмі здзівілі. Бо як можна раскрыць гісторыю дыяспары без паказу змянення тэрыторыі БССР, у выніку чаго за яе межамі на сваіх этнічных землях у розныя перыяды ў замежжы аказваліся дзесяткі, сотні тысяч, а то і мільёны суродзічаў. Разумею, што некаму вельмі не хочацца, каб грамадства асэнсоўвала падзелы тэрыторыі Беларусі ў XX стагоддзі, якія адбываліся без уліку этнічных межаў і жыццёвых інтарэсаў беларускага народа, як, дарэчы, і без удзелу яго прадстаўнікоў, згоды адпаведных органаў рэспублікі. Але ж гэтыя жаданні не маюць да гісторыі ніякага дачынення. Гэта факт, што значныя беларускія этнічныя тэрыторыі ахвяраваліся дзеля палітычнай кан'юнктуры, вырашэння геапалітычных інтарэсаў бальшавіцкага кіраўніцтва РСФСР, а затым СССР. Так было пры заключэнні Брэсцкага (1918) і Рыжскага (1921) дагавораў. Пры ўзбуйненні (1924 і 1926 гады), калі БССР былі вернуты Віцебшчына, Магілёўшчына і Гомельшчына, РСФСР пакінула за сабой частку тэрыторый, на якіх пераважала беларускае насельніцтва (гл. Казлоў Л., Цітоў А. "Беларусь на сямі рубяжах". Мн., 1993). Пасля заключэння 10 кастрычніка 1939 года "Договора о передаче Литовской Республике города Вильно и Виленской области и о взаимопомощи между Советским Союзом и Литвой" В. Молатаў, старшыня СНК і нарком замежных спраў, на сесіі Вярхоўнага Савета СССР недвухсэнсоўна заявіў: "Советский Союз пошел на передачу города Вильно не потому, что в нем преобладает литовское население" ("Известия", 1 ноября 1939 г.). І сапраўды, беларускія этнічныя землі былі аддадзены дзеля палітычных мэтаў: каб Літва згадзілася на пропуск савецкіх войскаў праз яе тэрыторыю, размяшчэнне савецкіх наземных і паветраных сіл. Платай за палітычны курс пасляваеннага кіраўніцтва Польшчы стала перадача ёй беларускіх зямель Беласточчыны.

Мусіць, спадару П. Петрыкаву асвятленне менавіта такіх гістарычных рэалій здаецца мінай "пад дзяржаўную палітыку Рэспублікі Беларусь, перш за ўсё ў адносінах да Расіі". Цяпер, калі праводзіцца палітыка "единения" з Расіяй, пэўным сілам хочацца паказаць бязвоблачнасць расійска-беларускіх адносін ва ўсе часы, хай сабе і шляхам утойвання ці замоўчвання рэальных падзей і фактаў. Але ці можна на такім падмурку пабудаваць трывалыя, дружалюбныя адносіны з суседзямі? Гэта ж будзе не фундамент, а плывун. Толькі калі ўсе складаныя, цяжкія, супярэчлівыя старонкі гэтых адносін будуць асэнсаваны грамадскасцю, стануць фактам гістарычнай свядомасці, яны перастануць быць палітыкай.

Цікава і тое, што цяперашнім часам ад мяне чакалі "ўдакладненняў" па фактах, пра якія сур'ёзныя навукоўцы пісалі нават у савецкі час. Так, яшчэ ў 60-я гады харкаўскі гісторык М. Кулічэнка, спасылаючыся на дакументы ЦПА ІМЛ, пісаў: "Обсуждая 16 января 1919 г. "Вопрос о Белоруссии", ЦК РКП(б) при участии В.И. Ленина (ПСС, т. 37, с. 724) единогласно постановил "провести через местные Советы, а затем через съезд Советов Белоруссии выделение из Белорусской республики губерний Витебской, Смоленской и Могилевской: оставить в составе Белоруссии две губернии Минскую и Гродненскую" (М.И. Куличенко. "Борьба Коммунистической партии за решение национального вопроса в 1918--1920 годах". Харьков. 1963. С. 248). А беларускі праваवед, гісторык В. Круталевіч на падставе першакрыніц паказаў, як гэта было рэалізавана: "К открытию первого Всебелорусского съезда Советов съезды Советов Могилевской, Витебской и Смоленской губерний приняли решение о выходе из состава БССР. Констатируя этот факт, первый Всебелорусский съезд Советов согласился с постановлениями губернских съездов и постановил не чинить препятствий присоединению Могилевской, Витебской и Смоленской губерний к РСФСР" (Круталевич В.А. "Рождение Белорусской Советской Республики". Мн., 1979. С. 121).

Не ведаю, што паўплывала (ці то мае аргументы пераканалі апанентаў, ці нешта іншае), але пагадзіліся пакінуць вышэйзгаданыя факты аб расцягванні беларускіх этнічных зямель. Вы скажаце, дык жа не ўсё з пазначанага знята, ці варта хвалявацца. Але ж паглядзіце, якая тэндэнцыя праяўляецца. Можна меркаваць, што ў новых тамах з абноўленымі рэдкалегіямі яе паспрабуюць рэалізаваць спаўна. Па трэцяму тому "рэцэнзентам" мусіць цяжка было развярнуцца як след, бо ўсё ж такі зроблена яго вёрстка і кардынальна нешта мяняць складана і нятанна.

Каб захаваць артыкулы, я згадзілася на пэўныя "ўдакладненні", больш-менш прымальныя для мяне. Хаця і цяпер шкадую, што дазволіла зняць у сваёй канстатацыі пра тое, што даследчыкі на эміграцыі скарысталі магчымасць свабоднага асэнсавання гісторыі і сучаснасці свайго народа **з пазіцыі яго нацыянальных інтарэсаў**, падкрэсленыя тут словы, мабыць, маглі б чытачам напомніць, што ў СССР і БССР увесь гістарычны працэс разглядаўся толькі з класавых пазіцый. Чытач мусіць ужо зразумеў, што згода аўтараў на "ўдакладненні" была "добровольно-принудительной". Вядома, можна было не пагаджацца, бо цяпер жа не 30-я гады. Але пры гэтым я не магла не ўлічваць недвухсэнсоўнае папярэджанне аб тым, што ў выпадку нязгоды аўтараў артыкулы будуць здымацца. Вось я і раздумвала, што гэта -- проста ціск, каб я ўласнымі рукамі зрабіла тое, што "ўдакладняльнікам" хочацца, але калі сустрэнуць аргументаваны адпор, то адступяцца? А можа і сапраўды здымуць? А можа ў нечым, некардынальным, паступіцца, каб захаваць артыкулы, бо гэта мае прыярытэты (не палічыце нясціпласцю, але ў ранейшых энцыклапедыях і даведніках такіх публікацый не было, як няма і спецыяльных даследаванняў). Аказалася, што могуць і зняць, як гэта здарылася з артыкулам доктара філасофскіх навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1984 г. У. Конана "Гісторыя культуры". А мой калега М. Кошалеў вымушаны быў сам адмовіцца ад супрацоўніцтва з БелЭН, напісаўшы аб гэтым адпаведную заяву пасля таго як яму прыслалі завізіраваць артыкул пра БССР са шматлікімі выкрэсліваннямі, у тым ліку і ўпамінання пра Дэкларацыю аб незалежнасці Беларусі. Ну не патрэбна яна ім, гэтая незалежнасць, хай сабе гэта і найвышэйшая каштоўнасць для ўсіх народаў.

Хто ж "удакладняў" змест 3-га тома Энцыклапедыі гісторыі Беларусі? Калі з усімі недаўменнямі адносна сваіх тэкстаў я звярнулася да галоўнага рэдактара БелЭН Г. Пашкова, то ад яго даведалася, што чыталі 4 навукоўцы, прозвішчы якіх ён не назваў. Значыць, артыкулы, якія пісалі дзесяткі аўтараў па розных перыядах, праблемах, сюжэтах, рэцэнзавалі зноў-такі дзесяткі спецыялістаў, "удакладнялі" 4 чалавекі. Ці па сілах было гэта ім прафесійна адрэцэнзаваць? Мушу думаць, што гэта ці то знаўцы-энцыклапедысты, ці цэнзары, якія "ўдакладнялі" няўгодныя высновы. Але тады хто даў ім такія паўнамоцтвы? П. Петрыкаў у размове падкрэсліваў, што БелЭН -- дзяржаўная ўстанова. Але гэта зусім не значыць, што пэўныя людзі, атрымаўшы ўладу ў гэтай установе, могуць дыктаваць сваё разуменне гісторыі ад імя гэтай дзяржавы ці лічыць сябе носьбітамі адзіна правільнага погляду на тыя ці іншыя працэсы. У савецкія часы гісторыкі вымушана "хісталіся" разам з генеральнай лініяй КПСС, цяпер жа ўладу маючыя хацелі б вярнуцца да той практыкі. Але ж уладныя гаспадары прыходзяць і адыходзяць, а то часам і погляды мяняюць. А раптам Прэзідэнт ад дэкларацый, якія апошнім часам гучаць часцей, павернецца да сапраўднага захавання і ўмацавання незалежнасці Беларусі? Або ўвогуле будзе абраны новы кіраўнік дзяржавы ці рэспубліка стане парламенцкай? І тады гісторыя Беларусі павінна будзе падладжвацца пад новую ўладу? Мабыць будзе, пакуль гісторыкі будуць моўчкі зносіць такую ганьбу, як "удакладненне" трэцяга тома Энцыклапедыі гісторыі Беларусі.

І яшчэ колькі слоў аб змене рэдкалегій у БелЭН. Пра гэта П. Петрыкаў у інтэрв'ю сказаў так: "У іх склад спецыялісты "ўводзяцца" і "выводзяцца". Так было, ёсць і будзе. Абноўлены склад рэдкалегіі 4-га тома ЭГБ, абнаўленні будуць і ў 18-томнай. Жыццё не прыпыніш". І сапраўды, змены рэдкалегій у працэсе працы над тамамі зусім натуральная рэч. Скажам, калі ўзнікае патрэба ў запрашэнні адпаведных спецыялістаў па той ці іншай галіне, а не ў адпаведнасці з палітычнай кан'юнктурай. А вось змены ў рэдкалегіі ўжо гатовага 3-га тома Энцыклапедыі гісторыі Беларусі выклікаюць не толькі недаўменне, але і больш цяжкія пачуцці. Як можна пагадзіцца на падрыхтаваным іншымі навукоўцамі томе паставіць свае прозвішчы, гэта ж інтэлектуальная ўласнасць не належыць ім? Не дапускаю думкі, што новапрызначаныя члены рэдкалегіі не чулі пра падпісаную нашай дзяржавай міжнародную канвенцыю аб інтэлектуальнай уласнасці і не так даўно прыняты закон аб аўтарскім праве. У гэтай сітуацыі я парадавалася за пазіцыю калегі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1994 г. Г. Галенчанкі, які напісаў заяву аб адмове ўваходзіць у склад новай рэдкалегіі, куды яго залічылі, нават не папытаўшыся згоды.

Цалкам усведамляючы цяперашнія цяжкія для гісторыкаў часы, я ўпэўнена, што ў навуковых дыскусіях, сутыкненнях розных поглядаў, меркаванняў, канцэпцый выкрышталізуецца праўдзівая гісторыя беларускага народа. Вось ужо і прафесійны астролаг Вераніка Кудраўцава прарочыць: "...наступит время для республики сбросить с себя "ослиную шкуру" (как это описано в мифе Апулея "Золотой осел"), и белорусы осознают себя совершенно другой нацией, произойдет качественный переворот в нашей истории". Мне здаецца, што гэта сцвярджэнне аб тым, што беларусы пакінуць здзіўляць свет сваім бяспамяцтвам, пазнаюць сваю сапраўдную гісторыю і багатую духоўную спадчыну, усвядомяць сябе на Богам дадзенай ім зямлі непаўторнай нацыяй (як непаўторныя ўсе іншыя нацыі), і пры гэтым адчуюць сябе неад'емнай часцінкай жывога цэлага — планеты Зямля і ўсяго неабсяжнага, бясконцага сусвету.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**



**Гомельскаму політэхнічнаму інстытуту прысвоена імя праслаўленага авіяканструктара, нашага земляка П.Сухога -- стваральніка славутых самалётаў СУ. З гэтай нагоды ў Гомелі пабывалі госці з Масквы -- дэлегацыя з авіяцыйнага канструктарскага бюро імя Паўла Сухога. Адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, праведзена навуковая канферэнцыя "Машынабудаўніцтва-96". Гомельскія вучоныя і канструктары з канструктарскага бюро імя П.Сухога дамовіліся аб далейшым супрацоўніцтве.**

**НА ЗДЫМКУ: мемарыяльная дошка, прысвечаная П. Сухому.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ВОДГУЛЛЕ*

## КАМУ ПАТРЭБНА "ГІСТОРЫЯ" ПЕТРЫКАВА-ФІЛІМОНАВА?

З болем і сорамам за нас, беларусаў, успрыняў я заяву групы вядомых вучоных, стваральнікаў першых тамоў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", членаў рэдкалегіі "ЭГБ" спадароў М. Біча, А. Грыцкевіча, М. Ермаловіча, М. Касцюка, Г. Кісялёва, У. Конана, А. Мальдзіса, В. Скалабана і Г. Штыхава, надрукаваную ў 21-м нумары газеты "Голас Радзімы" за 23 траўня сёлета. Аўтары заявы паведамляюць, што яны выведзены са складу рэдкалегіі чарговых тамоў. Я чытаў і не мог гэтаму даць веры! Я проста не ўяўляю, хто можа ў рэдкалегіі замяніць такіх знаўцаў беларускай гісторыі, якімі з'яўляюцца спадары Мікола Ермаловіч, А. Грыцкевіч, Уладзімір Конан, Г. Штыхаў ці М. Біч?! Няўжо таварышы-камуністы Петрыкаў з Філімонавым? Але ж, прабачце, зараз не 60-я гады, і ўжо няма наіўных людзей, якія стануць чытаць усялякую "лухту" пра "западнорусcизм" і "росквіт беларускай нацыі ў гады СССР" пад "мудрым кіраўніцтвам КПСС-КПБ"! Праўда, Беларусь -- краіна сапраўды "цікавая" ва ўсіх адносінах, і, магчыма, знойдуцца б "ахвотнікі" з ліку сядомых марксістаў-ленiністаў набываць і чытаць чарговыя, петрыкаўска-філімонаўскія тамы гэтак званай "гісторыі БССР" пад гучнай назвай "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі", але ж яны не будуць ні купляць, ні чытаць, бо яны і так "усё ведаюць"... Тады навошта дарэмна марнаваць народныя грошы на выпуск непатрэбнай "энцыклапедыі", шлях якой -- у ма-ку-ла-ту-ру!

Мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, добра ўяўляем сабе становішча ў Беларусі, таму ўжо не здзіўляемся нічому: збіццю міліцыянтамі бяззбройных дэманстрантаў, арышту ўдзельнікаў мітынгу, пікетаў і г.д., закрыццю беларускамоўных школ і класаў -- таму чарговы "пераварот", на гэты раз у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя", здзіўляць ужо не можа: агіда, сорам, шок! Хто ж у такім разе "кіруе" гістарычнай навукай у пакуль што ўсё яшчэ "самастойнай" Беларусі? Адказ напрошваецца сам сабой -- людзі, якія самі не ведаюць гісторыі Беларусі і робяць усё магчымае, каб яе не ведалі іншыя, каб усё было, як і раней, "па таварышу Абэцэдарскаму!". Таму і засталіся "ўмераныя" вучні Абэцэдарскага ў былой рэдкалегіі "ЭГБ", а ягоных "ворагаў" "выставілі" з яе за іх "антыкамуністычны" дух, за іх адданасць Адраджэнню Беларусі!

Шаноўныя спадары Ермаловіч, Грыцкевіч, Біч, Конан, Кісялёў, Мальдзіс, Штыхаў, Касцюк, Скалабан! Два тамы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" з вашым удзелам займаюць пачэснае месца ў хатніх бібліятэках беларусаў замежжа, імі карыстаюцца людзі іншых нацыянальнасцяў, якія цікавяцца гісторыяй нашага краю. Ацэнкі працы -- самыя высокія, вы можаце ганарыцца гэтым. Ну а тое, што з вамі зрабілі, няхай не выбівае вас з працоўнай каляіны: ваша праца, ваш вопыт патрэбны нам, беларусам-патрыётам, якія хочуць ведаць не лжывую, камуністычную гісторыю сваёй зямлі, а сапраўдную, такую, якой яна была на самай справе. Асабіста ў маёй хатняй бібліятэцы, апроч двух тамоў "ЭГБ", ёсць такія гістарычныя выданні, як "З гісторыяй на Вы", "Старажытная Беларусь" Міколы Ермаловіча, "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" Юрася Туронка, усе падручнікі з бел-чырвона-белымі вокладкамі па гісторыі Беларусі для сярэдняй школы, забароненыя зараз для карыстання ў беларускіх школах, але якімі карыстаюцца з задавальненнем мае вучні на занятках факультатыва беларускай культуры, шэраг іншых, усё цяжка пералічыць, ды й няма такой патрэбы! Галоўнае, што менавіта дзякуючы вам, вашай самаадданай працы, мы спазналі сваю "новую гісторыю", усвядомілі сябе б е л а р у с а м і, і ўжо ніхто нам не навяжа "новую гісторыю" ў рэдакцыі Петрыкава-Філімонава!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

Украіна.

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ДОКТАР ПРАКАПЧУК

***ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ***

Колькі жыву ў родным Слоніме, столькі здзіўляюся: чаму гэта мы, слонімцы, так дрэнна ўшаноўваем памяць пра сваіх знакамітых землякоў? А зямля наша даволі багатая на таленавітых пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных у розных галінах навукі, якія сваім талентам праславілі не толькі наш Слонім, але і ўсю Беларусь.

Да такіх славутых землякоў адносіцца, напрыклад, доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Андрэй Якаўлевіч Пракапчук, якому ў ліпені споўнілася б сто гадоў з дня нараджэння (памёр у 1970 годзе).

Нарадзіўся Андрэй Пракапчук у 1896 годзе ў вёсцы Чамяры на Слонімшчыне. Тут прайшло яго дзяцінства. Тут, у Слоніме, скончыў гарадское вучылішча, пасля -- настаўніцкія курсы ў мястэчку Свянцяны Віленскай губерні.

Час на курсах прайшоў хутка. Неўзабаве А.Пракапчук апынуўся ў Жыкморах Трокскага павета -- настаўнікам. У Жыкморскай школе было пяцігадовае навучанне, таму дасталіся яму пачатковыя класы. Школа была добрая, і настаўнікі -- людзі неблагія, акрамя загадчыка школы Лабанава. Гэта быў чарнасоцанец, член "Саюза рускага народу", выпісваў чарнасоценную газету "Земшчына". Аднак працаваць А.Пракапчуку ён не надта перашкаджаў, і клас яго быў не з горшых: калі школу праверыў інспектар народных вучылішчаў, ён звярнуў на яго ўвагу і нават запрасіў да сябе ў Трокі. У Троках, калі яны пазнаёміліся бліжэй, інспектар сказаў, што будзе рэкамендаваць Андрэя ў Пецярбург на Фрэбелеўскія курсы. Ён, вядома, узрадаваўся, але на курсы не паехаў, бо пачалася першая сусветная вайна.

У жніўні 1914 года А.Пракапчука прызвалі ў войска. Служыў салдатам у першай роце лейб-гвардыі Пецярбургскага палка, дакладней -- яго запаснога батальёна. Неяк выпадкова вывіхнуў нагу і трапіў у шпіталь. А ў шпіталі сустрэў свайго земляка з Жыровіц Аляксандра Станкевіча, які быў тут фельчарам. Менавіта Станкевіч і павярнуў лёс Пракапчука, вызначыўшы дарогу да яго будучай прафесіі. Ён уладкаваў Андрэя ў шпіталь, а пасля параіў паступаць на курсы ротных фельчараў.

Пасля курсаў Андрэй Пракапчук вяртаецца ў Беларусь, працуе настаўнікам у Нясвіжы, арганізоўвае гурткі па ліквідацыі непісьменнасці, хаты-чытальні, рыхтуе спісы па падзелу памешчыцкіх зямель...

У лютым 1918 года Нясвіж занялі войскі кайзераўскай Германіі. Андрэй Пракапчук адразу пачаў збіраць надзейных людзей, арганізоўваць партызанскія атрады.

У канцы лістапада 1918 года немцы пакінулі горад. Атрады Пракапчука занялі асноўныя гарадскія ўстановы. Яго прызначылі ваенным камісарам Нясвіжа...

У 1920 годзе наш зямляк паступае на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Яго адразу залічваюць на чацвёрты курс. У час вучобы Андрэя Пракапчука выбіраюць старастам групы. І быў ён не проста старастам, а старастам-"выручалачкай": пісаў за ўсю групу гісторыі хвароб. У вольны час хадзіў на дзяжурствы ў другую гарадскую клініку Масквы, дзе вядучым хірургам быў тады Вейсброд.

Неяк прывезлі парадзіху, якая ніяк не магла нарадзіць і чатыры дні праляжала на стале ў непрытомнасці. Вейсброд вырашыў рабіць кесарава сячэнне. Здавалася, усё будзе добра. Аднак дзіця праз дзве гадзіны памерла, а яшчэ праз некалькі гадзін памерла і маці...

На другі дзень, калі разбіралі гэты выпадак, Андрэй Пракапчук сказаў:"Не трэба было рабіць кесарава сячэнне. Я дастаў бы дзіця звычайным шляхам. Праўда, яно было б мёртвае, але затое жанчына засталася б жыць".

Вейсброд раз'юшыўся, раскрычаўся: маўляў, яйцо курыцу вучыць. А пасля пераверў Пракапчука ў скурную бальніцу да прафесара Мяшчэрскага.

Германа Мяшчэрскага наш зямляк ужо ведаў, бо здаваў яму экзамен па дэрматалогіі. Адказваў, трэба прызнацца, кепска. "Ну, што ж, пастаўце яму тройку. Дэрматолага з яго ўсё роўна не будзе", -- сказаў тады свайму асістэнту прафесар.

Праз многа гадоў, калі працы А.Пракапчука па дэрматалогіі былі прадстаўлены ў якасці дакладаў на міжнародным кангрэсе дэрматолагаў у Будапешце, наш зямляк, сустрэўшыся з Мяшчэрскім у Маскве, напомніў яму гэтую яго фразу. Прафесар доўга смяяўся.

Але гэта было пазней. А тады юнак са Слонімшчыны з пэўнай асцярогай узяўся за новую для сябе справу...

Работа з Мяшчэрскім ужо не ў якасці студэнта-практыканта, а ўрача была для Пракапчука вялікай школай, навучыла самастойна думаць. Прафесар бачыў гэта і, калі Пяцігорская гразелячэбніца спатрэбіўся спецыяліст, парэкамендаваў яго.

Менавіта ў Пяцігорску пачалася дарога нашага земляка ў вялікую навуку. Там ён пачаў сапраўдныя даследаванні, якія павінны былі вызначыць, у прыватнасці, дозу ўжывання лекавай гразі.

Пра сваю работу ў Пяцігорску Пракапчук паведамляў у навуковым друку: "Русский вестник дерматологии" надрукаваў яго артыкул аб аміятрофіях, а часопіс "Курортное дело" змясціў артыкул "Лячэнне сіфілісу на каўказскіх мінеральных водах". Пасля гэтага яму прапанавалі пасаду ўрача Мінводаў. Гэта была вялікая радасць для Андрэя Якаўлевіча. У цэнтры ўвагі, як доктара, былі пытанні этыялогіі і патагенезу найбольш распаўсюджаных хранічных захворванняў скуры. Пад яго кіраўніцтвам з гэтай нагоды было праведзена даследаванне ў скуры фізіка-хімічных працэсаў, вывучэнне водна-мінеральнага, бялковага, вугляводнага і ліпіднага абменаў.

Праз некаторы час А.Пракапчука тэрмінова выклікаюць у Маскву, і на Каўказ ён больш ужо не вярнуўся. Справа ў тым, што ў Маскве старшыня ЦВК БССР Чарвякоў сабраў у беларускім прадстаўніцтве ўсіх беларусаў, якія вучыліся ў маскоўскіх ВНУ, і паведаміў, што беларускі народ кліча іх на радзіму, у Беларусь.

У 1927 годзе наш зямляк вяртаецца ў Мінск і пачынае працаваць у Беларускім дзяржаўным універсітэце на медыцынскім факультэце намеснікам дэкана і старшым выкладчыкам кафедры. Жывучы ў Мінску, Андрэй Пракапчук знаёміцца з творчай інтэлігенцыяй Беларусі. А вось яго блізкае знаёмства з Янкам Купалам адбылося з прычыны хваробы песняра.

Аднойчы Андрэю Якаўлевічу пазванілі ў клініку і паведамілі, што тэрмінова патрэбна яго кансультацыя: захварэў Янка Купала, ёсць падазрэнне на дэрматыт, бо трэці дзень паэт скардзіцца, што ў яго баліць скура на твары, пячэ, ён не можа да яе дакрануцца. І тэмпература падскочыла -- 38,9...

Некалькі дзён А.Пракапчук літаральна не адыходзіў ад Янкі Купалы, і нарэшце лячэнне дало свае вынікі: пясняр папраўіўся, павесялеў. На сэрцы ў доктара адлягло...

З той пары Андрэй Якаўлевіч даволі часта наведваў Івана Дамінікавіча і любіў там бываць, бо ў яго доме было заўсёды людна, там збіралася літаратурная моладзь, гарачая, цікавая, разумная. І з Якубам Коласам ён пазнаёміўся ў Купалы, у яго гасцінным доме, дзе такой шчырай і ветлівай гаспадыняй была цётка Уладзя, жонка песняра. У Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску да сённяшняга дня захаваўся чацвёрты том збору твораў Янкі Купалы, выдадзены ў 1940 годзе. На ім дароўны надпіс: "Дарагому прафесару, акадэміку А.Я.Пракапчуку на добрую памяць. Шчыра адданы Янка Купала. 21.IV. 1940 г., г. Мінск".

У кастрычніку 1940 года Янка Купала і Андрэй Пракапчук наведалі Гродна. Гэта, відаць, была апошняя іх сумесная паездка па роднай Беларусі...

Што датычыць медыцынскай дзейнасці, то хачу сказаць, што ў 1928 годзе А. Пракапчук быў камандзіраваны ў Парыж з навуковай мэтай -- удасканалення сваіх ведаў. Тут ён працаваў у шпіталі святога Людовіка як стажор Сарбонскага універсітэта па дэрматалогіі і венералогіі, а таксама ў Пастэраўскім інстытуце па сералогіі. Яго кіраўнікамі былі вядомыя вучоныя Гужэро, Люсьен Пернэ, Гастон Міліян. Гэта быў надзвычай плённы час для доктара са Слонімшчыны. Ён атрымаў дыплом Сарбоны па спецыяльнасці -- гісталогія і яшчэ адзін дыплом, у якім было напісана, што "месье Пракапчук мае права загадваць сералагічнай лабараторыяй у Францыі і яе калоніях..."

Акрамя таго, ён надрукаваў у французскіх навуковых выданнях некалькі сваіх прац, у прыватнасці, у часопісе Гастона Міліяна быў змешчаны яго артыкул "Пігментная хвароба Шамберга".

Люсьен Перэн і іншыя калегі ў Францыі гаварылі Пракапчуку, што яго працы вартыя таго, каб на іх падставе абараніць дысертацыю, але ў Парыжы гэта будзе дорага каштаваць. "Раю вам, -- гаварыў Перэн, -- вярнуцца на радзіму і абараніць дысертацыю ў інстытуце акадэміка Паўлава".

Пракапчук паслухаўся Перэна і напісаў у Ленінград. Адтуль атрымаў станоўчы адказ.

У Ленінградзе нашаму земляку давялося працаваць пад кіраўніцтвам прафесара М.Анічкава ў інстытуце эксперыментальнай медыцыны. Дапамагалі А.Пракапчуку не толькі прафесар Анічкаў, але і яго калегі -- вядомыя вучоныя. Дзякуючы ім, беларускі доктар пабываў і на славутых паўлаўскіх серадах, быў прадстаўлены вялікаму вучонаму. Між іншым, менавіта акадэмік Паўлаў паспрыяў таму, што яго шэфам стаў прафесар Анічкаў.

У горадзе на Няве А.Пракапчуку была прысуджана ступень доктара медыцыны. Тут ён атрымаў і званне прафесара.

Імя нашага земляка Андрэя Пракапчука здабыло сусветную славу. Ён з'яўляецца аўтарам больш як двухсот навуковых прац. Пад яго кіраўніцтвам дваццаць пяць урачоў напісалі і абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. А ў 1944 годзе яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

А.Пракапчук распрацаваў і ўкараніў у практыку метад лячэння чырвонай ваўчанкі акрыхінам. Ён адзін з першых у былым СССР апублікаваў даныя па электронна-мікраскапічнай структуры нармальнай скуры, узбуджальніках заразных скурных і венерычных хвароб. Пад яго кіраўніцтвам праведзены арыгінальныя даследаванні па ультраструктуры скуры пры прамянёвых апёках, а таксама пакладзены пачатак гістахімічным даследаванням у дэрматалогіі.

У галіне мікалогіі А.Пракапчуком і яго вучнямі праводзілася вывучэнне эпідэміялогіі грыбковых інфекцый, даследаванне мікрафлоры нармальнай скуры чалавека.

У галіне венералогіі Пракапчук пастаянна займаўся ўдасканальваннем арганізацыйных форм барацьбы, метадаў дыягностыкі і лячэння, вывучэннем эпідэміялогіі і патагенезу сіфілісу і ганарэі. Ён адзін з першых у былой вялікай краіне са сваімі супрацоўнікамі вывучаў тэрапеўтычную эфектыўнасць пеніцыліну пры лячэнні сіфілісу, ганарэі і гнойных захворванняў скуры...

Спіс добрых спраў доктара Пракапчука можна доўга працягваць. Усе свае веды, жыццё і працу ён аддаваў ахове здароўя чалавека. І мы павінны пра гэта ведаць. Тым больш, што ён -- наш зямляк. Таму хочацца ў Слоніме крочыць яго вуліцай, бачыць на будынку Слонімскага медвучылішча мемарыяльную дошку ці помнік у яго родным горадзе. Дый наогул чаму, напрыклад, не назваць тое вучылішча імем А.Я.Пракапчука, а для лепшых і здольных навучэнцаў не ўстанавіць стыпендыю вучонага. Усё можна, бо час добра паказаў, што вельмі вялікая роля А.Я.Пракапчука ў развіцці дэрматавенералогіі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ВОСТРАЎ ПАМЯЦІ НА СВІСЛАЧЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Вакол белых сцен храма застылі бронзавыя постаці жанчын -- іх сабрала сюды агульная бяда і агульная адказнасць за будучыню.**

**На адкрыццё помніка з'ехаліся дэлегацыі бацькоў загінуўшых салдат з усёй Беларусі, сябры-аднапалчане, тыя, хто чакаў і не дачакаўся дома. Невялічкі востаў сярод Свіслачы не здолеў умясціць усіх гасцей і гараджан, таму тысячы людзей сабраліся на беразе ракі, непадалёку ад сцен храма-помніка. Усе яны памятаюць тую вайну, якая ўвайшла ў нашу гісторыю цяжкімі стратамі і горкімі наступствамі.**

**На цырымоніі прысутнічалі Прэзідэнт Лукашэнка, старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і яго намеснікі Васіль Новікаў і Генадзь Карпенка, віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў Беларусі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса.**

**"...Гэта вайна ўварвалася ў наша жыццё па волі палітыкаў, змяніўшы лёс цэлага пакалення. Якімі б ні былі палітычныя ацэнкі гэтай вайны, усім сёння зразумела, што салдаты і афіцэры, якія прайшлі дарогамі Афганістана, свой абавязак выканалі сумленна... Я яшчэ раз пацвярджаю, што ні адзін салдат нашай рэспублікі не будзе ваяваць, а гэта значыць і гінуць у чужых краях. Хопіць. Навconfigуры..." -- гэта словы з прамовы Прэзідэнта А. Лукашэнкі, сказаныя ў час адкрыцця помніка. Тут было яшчэ шмат выступленняў воінаў-"афганцаў", іх бацькоў, маладых воінаў сённяшняй Беларусі, але ўсе іх словы былі пра адно і тое ж: пра нашу памяць аб загінуўшых. Амаль трыццаць тысяч грамадзян рэспублікі прайшлі праз афганскую вайну, семсот семдзесят адзін воін загінуў на ёй.**

**Дзевяць гадоў збіралі людзі грошы на будаўніцтва гэтага помніка. Цяжка пералічыць усе перашкоды, якія ўзнікалі на шляху бацькоў загінуўшых воінаў, аўтара праекта скульптара Ю. Паўлава, усіх добраахвотных памочнікаў увасаблення задумы ўзвесці помнік на востраве сярод ракі.**

**Ён вельмі маленькі -- гэты востраў Памяці. Гора, прынесенае афганскай вайною, бязмежнае. Не забываецца на яе горкія ўрокі -- наш абавязак.**







**НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця помніка воінам-"афганцам" у Мінску.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*З ВІЛЕНШЧЫНЫ*

# НУ І ДОЎГА БУДЗЕ СНІЦЦА БЕЛАСТОЧЧЫНА!

Лета -- час адпачынкаў, цікавых падарожжаў, сустрэч, знаёмстваў. Вучні пасля напружанага навучальнага года адпраўляюцца на канікулы. Адны едуць у вёску да бабуль, другія -- у вандроўкі. Вось і лепшыя вучні беларускай школы Вільні, дзякуючы намаганням дырэктара сп. Сівалавай Г., адправіліся ў вандроўку на Беласточчыну. Надвор'е спрыяла. Вечарам выехалі ад школы, без клопатаў перасяклі мяжу, каля вёскі спыніліся на начлег і раніцай паехалі ў Бельск-Падляшскі. Ехалі, слухалі музыку, разглядалі прыдарожныя краявіды, кідалася ў вочы чысціня ўсюды: абапал дарогі скошаная трава, па-гаспадарску дагледжаныя вясковыя хаты. У Бельску мы адразу паехалі ў ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча з беларускай мовай навучання, які адзначыў сваё 50-годдзе. У чэрвені яшчэ працягваюцца заняткі, у калідорах цішыня. Нас спаткала дырэктар ліцэя сп. Зінаіда Навіцкая. Яна расказала пра ліцэй, паказала выставы, кабінеты. Асабліва ўразіў кабінет беларускай мовы, вельмі добра абсталяваны, шмат літаратуры, дыдактычнага матэрыялу, а мастацкае аздабленне зрабіў вядомы беларускі мастак А.Марачкін. У калідорах уся гісторыя ліцэя: стэнды "Гісторыя", "Нашы лепшыя", "Нашы алімпіяды", "Успаміны", "Нашы выезды", "Ліцэя", "Матура" і іншыя. Настаўнікі, якія выкладаюць у ліцэі, амаль усе беларусы. Жыццё ліцэя накіравана не толькі на дыдактычныя вынікі. Тут адчуваецца беларускі характар, ліцэй прапагандуе беларускую культуру, ладзіць сустрэчы з цікавымі людзьмі не толькі Беласточчыны, але і з Беларусі, і з-за мяжы з суайчыннікамі. Моладзь зацікаўлена ў вывучэнні беларускай мовы, гісторыі, культуры. Таму і дзейнічаюць ансамблі вакальныя "Дзявочыя ноткі", "Васількі", "Крынічка", "Маланка", драматычныя гурткі. Вучні ліцэя прымаюць удзел у рэспубліканскай алімпіядзе беларускай мовы ў Беларусі. Ліцэй і пачатковая школа ў Бельск-Падляшскім з'яўляюцца цэнтрам беларускасці.

На наступны дзень у Доме культуры нам паказалі сцэнку з спектакля М.Чарота "Мікітаў лапаць" у выкананні вучняў пачатковай школы вёскі Сакі, вельмі спадабалася пастаноўка "Двое" ў выкананні вучняў ліцэя, пасля дэкламавалі вершы, спявалі песні. Наведалі вучылішча іканапісу -- адзінае ў Польшчы, выставу Пятра Паўлаўчука, які перад другой сусветнай вайной скончыў у Варшаве інстытут, затым эмігрыраваў у Аргенціну. Пазнаёміліся з гарадам, былі у Троіцкай, Мікалаеўскай, Успенскай, Уваскрасенскай цэрквах, у беларускай хатцы, дзе так добра дыхаць. Тут намаганнямі Дарафея Фёніка сабраны рэчы старасветчыны, мае быць музей бежанства, плануецца зрабіць млын. Пад акампанемент гітары ў выкананні Д.Фёніка слухалі песні на словы У.Караткевіча, Я.Купалы.

Затым наша падарожжа працягвалася ў Гайнаўцы, гарадку, у якім жыве 95 працэнтаў беларусаў і 5 працэнтаў палякаў. Тут уласнымі сіламі і з дапамогай з Беларусі пабудаваны цэнтр беларускага асяродку ў Гайнаўцы, дзе размясціўся музей, бібліятэка, зала, гатэль. Міхась Галуб паказаў беларускі музей. Потым паехалі ў Белую Вежу, наведалі запаведнік. І закончылася наша вандроўка ў Беластоку. Тут наведалі рэдакцыю беларускага штотыднёвіка "Ніва", пазнаёміліся з айцом Місеюком, які часта выступае па радыё з пропаведзямі на беларускай мове. Хоць і трывалая беларускасць у Польшчы, але як і ў Літве, трымаецца на энтузіязме, на сваіх уласных сілах і сродках, без дапамогі з Беларусі, бо на радзіме зараз неспрыяльны час для беларускасці.

Хутка праляцелі пяць дзён. Вельмі добра нас прымалі, запрашалі да сябе ў госці. Мэта нашай вандроўкі -- бліжэй пазнаёміцца з жыццём беларусаў Польшчы, наладзіць больш цесныя кантакты, асабліва з вучнямі і настаўнікамі беларускага ліцэя.

**Леакадзія МІЛАШ, настаўніца беларускай школы г. Вільні.**




**НА ЗДЫМКУ: каля рэдакцыі "Нівы" ў Беластоку.**

# "НАШ ЖУРБОТНЫ ШЛЯХ ПРАЦЯГВАЕЦЦА..."

## (ПІСЬМЫ У. ДУБОЎКІ ЖОНЦЫ І БЛІЗКІМ СА СТАЛІНСКІХ ЛАГЕРАЎ І ЭТАПАЎ)

Дорогая Марилька!

Я думаю, что ты получила мое письмо, в котором я писал о своей неожиданной болезни. Пока что самостоятельно ходить не могу. 10-го декабря ходил на рентген. Установлено, что поломок или разрывов никаких нет. Все же лежать придется не меньше месяца. Сегодня пишу, вернее, написал письмо в Кульдур своему начальнику, в котором прошу забрать меня туда в наш стационар из центрального лазарета. Дело в том, что там я смог бы делать ванны из курортной воды и лучше, чем здесь, устроился бы с питанием. Если буду уезжать туда -- обязательно напишу. От тебя с июля ничего не имею. Быть может, за это время подошло что-либо, но мне сюда не переслали. Целую тебя. С Новым Годом, моя родная. Хотелось бы хотя следующий провести вместе. Привет родным.

17/XII.46.

**Владимир.**

*28-01-47*

Дорогая Марилька!

Я тебе написал несколько писем и длинных, и коротких. Из них ты можешь составить себе представление о моем житье-бытье. Могу добавить, что в общем здоровье мое улучшается, и хотя я хожу с костылем, но наступать ногой становится легче. Думаю, что нога начнет и разгибаться полностью, хотя, б[ыть] м[ожет], не сразу. Я, возвращаясь из лазарета, заехал в Карадуб и здесь живу пока что. Понемногу работаю в бухгалтерии. Относительно моего питания ты можешь не беспокоиться. Когда нужно будет -- я заблаговременно попрошу подбросить чего-либо, а сейчас -- ничего не нужно. Вот если у тебя найдется кусок сукна синего с полметра, остаток от каких старых брюк, не новый, конечно, -- при случае подбрось сюда. Дело в том, что те синие брюки, которые ты прислала мне со свитером в 45 году, я осенью перелицевал и сейчас ношу. Но думаю, что в скором будущем понадобится поставить так называемые "леи" на заднюю часть, так как она протирается быстрее. Не обязательно, чтобы сошелся цвет. Только не вздумай тратить что-либо хорошее. Если никакого ненужного предмета нет -- я при необходимости поставлю какой-либо другой материал. Больше ничего не заказываю, разве пару хороших химич[еских] карандашей. У нас здесь бывают рублей по 25--30, но качество скверное. Не знаю, как дальше. Надо уже интересоваться тем, куда ехать в августе. Какие твои соображения. Прекрасно представляю, что при засухе 46 года на мой вопрос сейчас ответить нелегко. Как ты смотришь на Закавказье, если туда мне разрешат ехать? В коротких чертах выскажи свои соображения. Привет родным. Я смотрю на них совсем не так, как ты. Помоему -- "все люди и все человеки". Целую тебя. Я поздравлял тебя с Н[овым] Годом. Спасибо за твои. Привет. Телеграмму твою пока что не получил. Она или в Кульдуре, или в Известковой. Пиши.

**Владимир.**

*5-02-47*

Дорогая Марилька!

Адрес -- тот же. Я сейчас нахожусь в Карадубе. Нога -- поправляется. Имею надежду, что хотя и не скоро -- будет вполне здорова. Мне пока ничего не присылай. Если нужно будет что -- я напишу. Знаю хорошо, что в этом году там у вас нелегко с питанием. Что касается меня, то пока что я сыт, одет, обут. К освобождению чего нужно будет -- тоже напишу. Пиши свои соображения относительно того, куда хотела бы ехать после моего освобождения. Я, признаться, потерял ориентировку. Почему-то мне думается, что неплохо было бы поехать в Закавказье, к морю, если разрешат. Привет. Целую тебя. Пиши. Передавай привет родным.

**Владимир.**

*27-02-47*

Дорогая Марилька!

Вот сегодня остается пять месяцев. Пиши, куда бы лучше направиться. От тебя, между прочим, давно нет писем. Получаешь ли ты мои? Я писал тебе порядочно. В общем -- жив, здоров. Работаю в бухгалтерии на материальном столе. В Кульдур не поехал, задержался в Карадубе. Здесь лучше с питанием, все же здесь я несколько лет провел. Пиши, дорогая. С посылками не беспокойся. Когда мне нужно будет что -- я спрошу своевременно. Привет родным. Целую тебя.

**Владимир.**



*5-06-47*

Дорогая Марилька!

Если на хорошее -- буду писать чуть ли не в последний раз. Плохо только, что не могу хорошо ориентироваться по будущему месту житья. Уехал в мае мой сотоварищ по этим местам, по рождению грузин -- Торцов З.И. на свою родину. Обещал написать мне сюда и на адрес Таси о том, можно ли устроиться вблизи его родных мест (Кахетия). Во всяком случае -- хотелось бы куда-нибудь в те места. Как будет практически -- заранее не угадаешь. А вдруг кто припишет место, тогда будет совсем без забот.

У нас здесь не поймешь -- не то конец весны, не то начало лета. Все в зелени, все в цветах. Цветут почти все растения кряду. Цветет яблоня, цветет ландыш, цветут ирисы. Все бы это цветение и благоухание радовало бы чрезмерно, если бы не бесконечный тягучий смутак, который не покидает меня всю мою горькую жизнь. Ну, да ладно уж. Шью себе меховой пиджак, крытый сукном. Сшил раньше китель суконный. Брюки, что ты прислала, почти что приличные. Сошью сапоги брезентовые. Сшил полуботинки из присланного тобой хрома. Сошью пару гимнастерок. В общем маломальски буду одет на первое время. Про меня особенно не беспокойся. Питаюсь нормально. Живу в хороших условиях. Нога поправляется, хотя медленно, но поправляется. А в июле, числа с 10-го, думаю твердо побывать в Кульдуре и принять десяток ванн.

В случае необходимости дам телеграмму относительно денег, но постараюсь избежать этого, т. к. они могут пропасть. Если сумею получить с лицевого счета, куплю себе материалу и сошью брюки шерстяные на ботинки.

Привет родным. От Таси получил короткое письмо. Целую тебя.

**Владимир.**

*23-08-47*

Дорогая Марилька!

Приехал 21 вечером. Вчера дал телеграмму. Имею резолюцию на оформление, но в п[аспортном] столе нет бланок, зав. уехал за ними. Получу не раньше понедельника, а б[ыть] м[ожет] и еще позже, как приедет. Военная комиссия даже 18-09, но это не задержит. Город большой живой, но пока дороговатый. После снятия урожая будет безусловно иное. Дешевы только фрукты и овощи. Снял временную комнату безо всяких услуг. Плачу, не пугайся, 20 р. в сутки. Сегодня иду относительно работы и, б[ыть] м[ожет], более подходящей квартиры. Как только мало-мальски устроюсь -- дам телеграмму. Сегодня же буду писать письмо более подробное. Есть еще сахар, сухари. Покупаю немного винограду, овощей. Тарелочка винограда, помоему, не меньше кило -- пять рублей. А может быть и больше кило. Здесь очень в ходу на сбыт ценные материалы -- шерсть, сукно, шелк. Многие отсюда возят в Москву фрукты, орехи и пр., а там приобретают материалы или даже проникают за ними в Иваново. Вчера весь день бегал из Военкомата в Управление, а поэтому хорошенько и не рассмотрел всего. В общем -- не горюй. Целую тебя крепко, крепко. Привет родным сердечный

**Володя.**

М[ежду] прочим, Кутаиси не режимный город, пожалуй, я зря не взял письмо от Ив. Конст.[1], но тем не менее мне обязательно надо было заехать и сюда, поскольку сюда направляли. Целую. Владимир.

[1] Іван Канстанцінавіч Клецкі, муж сястры Уладзіміра Мікалаевіча.

**Публікацыю падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

**НА ЗДЫМКУ: перад ад'ездам з Почата. 1958 г.**

**Заканчэнне. Пачатак у NN 28--32.**

НАРОДНЫ МАЙСТАР



**Такога ўмельца па лазапляценню, як жыхар вёскі Альшаны Столінскага раёна Андрэй Чэрвінскі (на здымку), бадай, на ўсім Палессі не знойдзеш. З лазы ён робіць усё -- пачынаючы з дробных вырабаў і канчаючы прыгожай мэбляй. Да выхаду на пенсію Андрэй Паўлавіч 33 гады працаваў кавалём. Цяпер вучні майстра стварылі ў мясцовым калгасе "40 гадоў Кастрычніка" цэх па лазапляценню, які прыносіць немалы даход гаспадарцы.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## У ВІЦЕБСКУ ПОМНЯЦЬ МАЛЕВІЧА І ВЕДАЮЦЬ МАЛЕЯ

У былой графскай сядзібе Цеханавецкіх у Бачэйкаве, што ў Бешанковіцкім раёне, праходзіць ІІ міжнародны пленэр "Малевіч. УНОВІС. Сучаснасць". Ідэя і праект гэтага пленэра, зрэшты, як і таго, што праходзіў два гады назад у Ліпках, належыць вядомаму віцебскаму мастаку і тэарэтыку мастацтва Аляксандру Малею. А генеральным спонсарам, без якога нічога не адбылося б, з'явіўся Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду Сораса.

ІІ міжнародны пленэр задуманы як пленэр канцэптуальнага мастацтва і закліканы падкрэсліць, што творчасць Казіміра Малевіча канцэптуальная ў класічным разуменні. Менавіта ў Віцебску з 1919 па 1923 год ідэі супрэматызму былі завершаны Малевічам тэарэтычна. Сучасныя віцебскія мастакі-авангардысты, аб'яднаныя Аляксандрам Малеем у творчае аб'яднанне "Квадрат", сцвярджаюць эстэтычныя прынцыпы класікі і постмадэрнізму ў мастацкім жыцці рэспублікі, узнаўляюць перарваную сувязь паміж мастацкай гісторыяй пачатку стагоддзя і сучаснасцю, прагнуць гістарычнай справядлівасці і ўзбагачаюць культуру Беларусі. Першы пленэр "Малевіч. УНОВІС. Сучаснасць" меў вялікі рэзананс. На заключнай выставе прысутнічалі прадстаўнікі Рускага музея, Беларускага нацыянальнага мастацкага музея, Траццякоўкі, Фонду Малевіча, крытыкі-мастацтвазнаўцы з выданняў Беларусі і Расіі. Работы ўдзельнікаў таго пленэра выстаўляліся ў Маскве.

Цяперашні пленэр яшчэ больш прадстаўнічы. У ім прымаюць удзел 15 мастакоў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы. Акрамя заняткаў творчасцю, мастакі ўнясуць пасільны ўклад у справу стварэння ў сядзібе Цеханавецкіх рэспубліканскага парку культурных і гістарычных ведаў.

Месца гэта ў многім унікальнае і надзвычай прыгожае. На жаль, наша глупства і асабліва вайна ператварылі комплекс у Бачэйкаве ў руіны. Цяпер аднаўленнем сядзібы Цеханавецкіх займаецца Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду Сораса, а таксама вядомыя спецыялісты. Раскопкі вядуць супрацоўнікі Акадэміі навук, студэнты і педагогі Полацкага дзяржуніверсітэта.




# ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МАЯ ЗЯМЛЯ!





НЯДАЎНА ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі прайшла прэзентацыя альбома беларускіх мастакоў пад назвай "Мая зямля". Альбом гэты -- своеасаблівая анталогія жывапіснага выяўленчага мастацтва Беларусі. Ён рэкламуе набыткі беларускага мастацтва і прадстаўляе Беларусь у свеце. Аналагаў яму няма. Гэта грунтоўны, шматпланавы альбом, зроблены па новаму прынцыпу спалучэння: калі вы не толькі бачыце карціну мастака, але і можаце атрымаць навуковую інфармацыю аб ёй, змешчаную ў даведачнай частцы. Аб гэтым гаварылі на прэзентацыі заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея -- Юрась Карачун, аўтар канцэпцыі альбома, загадчык аддзела выяўленчага мастацтва часопіса "Мастацтва" -- Валянціна Трыгубовіч, дырэктар фірмы "Сімон" -- Мікалай Сіўчук, прадстаўнікі беларускай прэсы, творчай інтэлігенцыі. Выданне стала вынікам трохгадовай працы творчага калектыву часопіса "Мастацтва" і выдавецкай фірмы "Сімон". Яно першае ў тым праекце, які задуманы ўкладальнікамі з мэтай знаёміць свет з беларускай культурай, прычым трэба адзначыць, праект гэты прыватны.

Альбом "Мая зямля" складзены з больш чым 100 карцін 59 беларускіх мастакоў, якія працавалі і працуюць у самых розных стылях, мастакоў мінулага стагоддзя і нашых сучаснікаў, тых, што жывуць у Беларусі і далёка за яе межамі. Усіх іх аб'ядноўвае адзінае шчырае пачуццё -- любоў да роднай зямлі. Тут сабраны пераважна пейзажы, бо што лепей перадасць усю гаму пачуццяў! Але замілаванне краем без яго жыхароў немагчыма, і таму на старонках альбома глядач сустрэнецца і з партрэтамі людзей, убачыць таксама нацюрморты, кампазіцыі накшталт работ Фердынанда Рушчыца, Міхася Сеўрука і інш.

Першая карціна, з якой пачынаецца альбом, -- партрэт, фрагмент фрэскі Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, які спецыялісты лічаць можа быць вывай Ефрасінні Полацкай -- вялікай асветніцы, святой апякункі Беларусі, асобы надзвычай важнай для ўсёй гісторыі нашай культуры. А далей імёны, імёны... Апалінар Гараўскі, Іван Хруцкі, Нікадзім Сілівановіч, Віталь Цвірка, Гаўрыла Вашчанка, Нінель Шчасная... Ёсць у альбоме і карціны мастакоў -- прадстаўнікоў беларускага замежжа: Галіны Русак са Злучаных Штатаў Амерыкі, Лявона Тарасевіча і Міколы Давідзюка з Польшчы. Такія розныя, але цікавыя мастакі, такія шчырыя работы.

Альбом гэты па задуме аўтараў складаўся як лірычны верш, тэма якога -- "люблю цябе, мая Беларусь".

І ў кожнага мастака вылучаецца нейкая асабістая шчымлівая інтанацыя, сугучная з агульным настроем. Таму не пакідае гледача адчуванне гармоніі, цэласнасці. Выданне зроблена паралельна на беларускай і англійскай мовах. Англійскія тэксты дапамагаў вычытваць наш суайчыннік з Амерыкі, які зараз жыве на Беларусі, -- Джозэф Піцэвіч.

Выхад у свет альбома "Мая зямля" -- сапраўдная з'ява ў выяўленчым мастацтве нашай краіны.

**Алена КАЗЛОВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: А. ГАРАЎСКІ "Купальшчыцы; К. КАЧАН "Зіма ў Наваградку".**

# «МНЕ ДОЎГАЕ РАССТАННЕ З ВАМІ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Спытаўся адчайна ў мудрай і мужнай Беларусі, за што "забылі цябе, адракліся, прадалі і аддалі ў палон". Спытаўся Паэт, які вырас на чужой зямлі, у ваколлі чужое мовы, сілкуючыся толькі чэпкай памяццю і любоўю: "у родным краі ёсць крыніца жывой вады"... Спытаўся Грамадзянін, здольны вымаліць: "Маці родная, маці-краіна, Не усцішыцца гэтакі боль... Ты прабач, ты прымі свайго сына, За цябе яму ўмерці дазволь".

"Дзе шляхі вашы йдуць і куды?" -- пытаемся і мы цяпер, напрыканцы XX веку, на хвалі новага Адраджэння, якое зноў растузанае ліхадзейнымі вятрамі нашае нацыянальнае адчужанасці ад саміх сябе, ад сваіх спракавечных каранёў. Пытаемся ў сваіх адначаснікаў, што заблукалі на гістарычных скрыжалях паміж Захадам і Усходам, страціўшы ратавальнае пачуванне грунту -- Бацькаўшчыны. Пытаемся ў саміх сябе, знявераных і ўпартых, памкнёных і задумлівых -- расхрыстаных да новае дарогі нашае краіны ў свет, у бясконцасць.

80 гадоў заклікае прарочы Максімаў голас: "Бійце ў сэрцы іх, бійце мячамі, Не давайце чужынцамі быць!" З сівое прадаўнасці "мкнуцца, рвуцца" "ваякі на грозных канях", ад Полацкіх курганоў да святое Вострае Брамы ў Вільні, ад перамогаў над крыжакамі да сённяшняе маўклівае пакоры "ўсё лятуць і лятуць тыя коні". А мы? Мы няўцямна азіраемся наўкол, намацваючы светлавыя кропкі мінуўшчыны і наступнасці, пасміхаючыся кпліва з Максімавага абяцання: "Беларусь! Твой народ дачакаецца..." Мы чакаем -- волі, кахання, ладу. Мы сапраўды дачакаліся, што імя нашае і гонар не залежаць ад нас, ад выбару сэрца.

Максіму Багдановічу было мала адведзена пражыць, і ён, тонкая нярвіна Сусвету, прадчуваў, разумеў, бачыў скон як пачатак, край як узвышэнне. Ён спяшаўся сказаць, здзеіць, спраўдзіць сваю ролю ў гэтай годнай ціхмянай Краіне. Ён ствараў паэзіяй сябе, набліжаючы ідэал Радзімы, Жанчыны, Праўды да рэчаіснасці. Ён ляпіў настойліва вобраз існасці, дзеля якое й вяршыцца быццё ўсяленскае, няспыннае, непераможнае, як тая містычная, але гэткая жывая, магутная, праведная Пагоня, што абуджае памкнёнасць да волі.

У Ракуцёўшчыне, што прытуліла Багдановіча ў паляўнічай хаціне Вацлава Лычкоўскага на два кароткія месяцы лета 1911-га, Паэт шукаў, галёкаў, мроіў сваю Вераніку, каб у 1916-м пачуць лёт Пагоні "ў сэрцы трывожным". Каб Воля і Каханне спляліся ў несмяротны "Вянок", які ўзыдзе над краем нечакана радасна, прыплыве ад сіняй бухты адкрыццём і спасціжэннем Сусвету Творцам ў параненай душы. Адсюль, з Ракуцёўшчыны, дзе Багдановіч выдыхнуў на адным апантаным крыле крывіцкага лета два цыклы вершаў -- "Старая Беларусь" і "Места", паэмы "Вёска" і "Вераніка", дзе ён піў напоўніцу водар Айчыны, павёў літаратурны бальшак да тае вяршыні, на якой свяціцца зараз імя Максіма-кніжніка. Адсюль, з мясціны, прытуленай між Мінскам і Вільняй, на дарозе ад учарашняе дзяржаўнае моцы Літвы да заўтрашняга ўсходу незалежнай Беларусі будзе чэрпаць Паэт натхненне жыць і казаць скрушна-спадзеўна: "Народ, беларускі народ, ты цёмны, сляпы, быццам крот" -- спадзеўна на відушчасць старажытнага народу. Адсюль Багдановіч пойдзе ў Вечнасць, каб свяціць нам усім здалёку зоркаю Венераю: "пэўна ўжо доля такая у нас..."

Тут, у Ракуцёўшчыне, застанецца адзіны след Паэтавай хады з нябёсаў па зямлі. Бо ў Мінску, дзе нарадзіўся Максім, дзе ў Беларускай хатцы ён упершыню чытаў адраджэнскай грамадзе сваю балючую "Пагоню" на развітанне з Радзімаю, чуцён яго задуменны голас -- голас немаўляці, што прыйшло з паэзіяй у бел свет, і голас духоўнага Паўстанца, што задыхаецца без Волі. А ў Ракуцёшчыне пранікліва адчуваецца Максімава цішыня, Максімава засяроджанасць на зрухах уласнае душы, палучанае нябачнаю ніцінаю з душою планеты, усяленскаю душою. Тут згадваецца Паэтава спалохана-адчайнае прызнанне: "Я ў сад прыйшоў. Там пуста, ціха. Усё травою парасло...", Паэтавае адзінотнае дакрананне да бегу часу, які ўсё сціраe, пакідаючы толькі таемныя знакі прысутнасці Творцы, прысутнасці Бога ў радках, што вястуннымі птахамі прысядаюць на дол зямное рэчаіснасці. Тут прытоена мовіць да нас і да наступнікаў сама Божая сутнасць, якая дасылае гэтай краіне Паэтаў -- на паратунак, на збавенне ад нашае гаркотнае пакоры, на ўзвышэнне духу. На свята адзінства тых, хто быў, мысліў, марыў, і тых, хто яшчэ прыйдзе -- шукаць сваю прызначанасць, сваё гняздо ў сусветнай прасторы, сваю Вераніку ў кароткім бліскавічным імгненні жыцця, дадзенага менавіта для гэтага ненатоленага пошуку.

"Мне доўгае расстанне з Вамі чарней ад Вашых чорных кос..." -- Максім Багдановіч, што трызніў пра Мадонну, якая асвячала б вялікім глыбокім сэнсам жыццё, надавала б важкае значэнне прышэсцю чалавечаму сюды з улоння Мадонны-прыроды, пакутна перажываў ростань з каханай дзяўчынай, з радзімай, з аджылай, звялай мрояй.

"Мне доўгае расстанне з Вамі", -- прамаўляю прасветлена і жальна я на сумежжы тысячагоддзя. Мне падалося доўгім расстаннем жыццё без Багдановіча, без Купалы, без Геніюш -- жыццё, пазбаўленае салодкае пакуты суперажываць, біцца пульсам у вершах, створаных даўно-прадаўна, але гэтакіх маіх, гэтакіх зразумелых і блізкіх. Мне падалася стратаю мая доля, абкрадзеная кімсьці бязлітасным і распарадчым, хто прысвойваў сабе права хаваць сапраўдную веліч нашае паэзіі, сапраўдную знітаванасць творцы, гісторыі, будучыні і загадкі зямнога бытавання на крыжы любові і мукі.

"Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка" -- адкрыў-усвядоміў калісь яснабачны Купала. "Чым болей сходзіць дзён-начэй, тым імя мілае вышэй..." -- захоплена выснаваў Багдановіч. І спатканне з нягаснаю зоркаю паэзіі, сустрэча з Мадоннамі, якія хай сабе й былі выдумкамі Паэтавых галоваў, надае новыя адценні дню, новыя фарбы далягляду, замружанаму будзённымі нягодамі і расчараваннямі. Надае ўпартасці жыць, шукаць, памыляцца і зноў караскацца па лесвіцы спасціжэння -- спяшацца спяваць, гаварыць, будаваць і глядзець у людскія вочы, каб узрушана знайсці адказ: "Калісь глядзеў на сонца я. Мне сонца асляпіла вочы"...

Да сонца Максімавай узлётнай песні расплюшчылі вочы мы, паслядоўнікі, што ідзем па слядох і не чуем іх жыццядайнае падтрымкі, іхняе адважнае жыватворчасці. Да сонца Максімавай любові ўзносіліся спевы бардаў Алега Атаманава, Вольгі Цярэшчанкі, што нанава дасылалі свету Максімаву "Вераніку" і Максімаву "Зорку Венеру", сагрэтыя сэрцамі і вуснамі пераемнікаў -- нястомных падарожнікаў Любові. Да сонца нашае гаючае мінуўшчыны і нашае прадчувальнае заўтрасці крылялі песні Алеся Камоцкага, Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча, агаляючы бязлітасна праўду нашага сённяшняга зацмення, пацвярджаючы Максімава папярэджанне: "Бяз болю, ціха зойдзеш ты У краіну забыцця" -- забыцця, якое пагражае выраčанасцю стацца непаўнавартаснай нацыяй. А Максім, між тым, прамудра нагадваў: "Жывеш ня вечна, чалавек, -- Перажыві ж у момант -- век!".

Гэтак яно і выткалася, свята Паэзіі ў Ракуцёўшчыне, якое штогод абуджаецца ў Дзень Незалежнасці, -- "у момант -- век". І час, і прастора, здавалася, былі ўпластаваныя ў адно прачулае маленне: "шукаю Бога я", каб "радзімаму краю служыць"...

"Ой, ня век жа свечцы тонкай зіхацець, гарэці, Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеці..." -- прадбачыў малады летуценны Максім Багдановіч, спазнаўшы суровую логіку быцця. Але празрыстая свечка ягонага Слова прабівала цямрэчу вякоў і тое жудаснае бяспамяцтва, што навісла над краем хмараю. Слова Максіма, прамоўленае, выгукнутае ў правечнасць вядучымі паэтычнага свята акцёрамі Купалаўскага тэатра Аленай Сідаравай і Віктарам Манаевым, ажыўляла ад знямеласці душы, раскрывала небакрай нашага немінучага Адраджэння -- знойдзенасці саміх сябе. А паэты -- гэтыя гордыя птахі гожасці-харавства -- Данута Бічэль-Загнетава, Алесь Чобат, Лявон Дранько-Майсюк, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Міхась Скобла, Эдуард Акулін -- паэты поўнілі свет вераю, святлом. Вычышчалі гойным словам пратокі-барозны нашае гістарычнае нівы, па якой няспынна ідуць сабе ды йдуць нашыя слынныя, нашыя адданыя сейбіты -- Купала, Багдановіч, Колас, Караткевіч, нібыта спаўняючы Максімаў заклік: "І красой паводкі вольнай Душу выпрастай маю!". І, мабыць, упершыню не хацелася пагаджацца з Багдановічам, які некалі сумна ўбачыў:

**Песня рвецца і ліецца**
**На раздольны, вольны свет.**
**Але хто яе пачуе! --**
**Можа толькі сам паэт.**

...Але бруіць спрадоння, спрадвеку Максімава крыніца "і ўсё, што згінула даўно, У цёмнай глыбіні хавае". Раскронены ў неба малады Максімаў сад, высаджаны сучаснымі паэтамі, -- а ў гэтай повязі нетры і вышы, пачатку і скону сонечным прадзівам трымціць Беларускі Дзень -- "той дзень, што мае нарадзіцца, і знікшы дзень". І ў дні гэтым белакужэльным наструненыя ніты Максімавых, Купалавых, Цётчыных вершаў -- валокнаў чысціні. У дні гэтым ёсць пачэснае месца паэзіі, якую чутно змучанаму народу, чутно на прасвятленне і ўзвышны шлях -- жыць, любіць, снаваць, бо "ўсе мы разам ляцім да зор". Павяртальная дарога з Ракуцёўшчыны цешыла надзеяю на ўваскрашэнне: "Не кувай ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары..."

"А ў сэрцы хораша было, -- там запалілася цяпло"...

**Антаніна ХАТЭНКА.**

*БЕЛАРУСКІЯ СПАРТСМЕНЫ НА XXVI АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ*

# НЕ НАШ ДЗЕНЬ

У Атланце завяршыліся XXVI Алімпійскія гульні. На іх Беларусь упершыню выступала асобнай камандай. Рэспубліка дэлегіравала ў далёкую Атланту 158 удзельнікаў. У каманду ўвайшлі і навічкі, і тыя, хто ўжо меў вопыт выступленняў на Гульнях.

Чакалася, што беларускія спартсмены парадуюць нас перамогамі, медалямі. Але, як кажуць, быў не наш дзень. У ЗША беларусы заваявалі 15 медалёў, з якіх усяго адзін залаты: вызначылася вяслярка Кацярына Хадатовіч. Няўдачы праследавалі нашых спартсменаў нават у традыцыйна "нашых" відах. Скажам, чакалі мы, калі не перамог, то медалёў ад кідальніка молата Ігара Астапковіча, цяжкаатлета Аляксандра Курловіча, лёгкаатлеткі Наталлі Шыкаленка... Не атрымалася.

Што здарылася? Прычын некалькі. Адна з іх, як лічаць спартыўныя журналісты, камплектаванне зборнай. Не заўжды трэнеры прытрымліваліся спартыўнага прынцыпу.

Прывядзём канкрэтны прыклад. Усе мы з вялікай пашанай ставіліся да алімпійскай чэмпіёнкі ў плаванні Алены Рудкоўскай, нізка схіляемся перад многімі яе перамогамі на спаборніцтвах. Але ж гэта было ўчора! Гады бяруць сваё. І вось таму пацвярджэнне: у Атланце Алена на змагла падняцца вышэй трыццаць трэцяга месца.

Мусіць, прайшоў зорны дзень і час і для іншых знакамітых спартсменаў: цяжкаатлета Леаніда Тараненкі, барца Камандора Маджыдава... Гэты спіс можна працягваць.

Да трэнерскіх пралікаў дадаліся і суб'ектыўныя прычыны. Разлічвалі мы на нашых гімнастаў. Ведаем, што мужчынская зборная і па сённяшні дзень з'яўляецца мацнейшай у свеце. І раптам перад пачаткам Гульняў атрымлівае траўму Іван Іванкоў, бясспрэчны лідэр. Прыкра...

Яго траўма псіхалагічна так падзейнічала на іншых, што нават шасціразоваму чэмпіёну свету Віталю Шчэрбе не ўдалося ў Атланце заваяваць больш аднаго бронзавага медаля.

Алімпійскія гульні ў Атланце -- гэта ўжо гісторыя. Не атрымалася сёння -- атрымаецца заўтра. І не будзем рабіць трагедыю з гэтага параўнальна няўдалага выступлення беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе. Яшчэ многа наперадзе стартаў, дзе, мы мяркуем, нашы спартсмены праявяць сябе ў поўным бляску, як гэта было ў мінулыя гады.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**7 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА сустрэўся з спартсменамі -- прызёрамі XXVI Алімпійскіх гульняў у Атланце.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

*ЮНЫ ТАЛЕНТ*



**Вы можаце ўявіць сабе бабу-ягу ў выглядзе добрай працаўніцы, якая зусім не хоча ўпустую размахваць мятлой па прасторах Сусвету! А яшчэ -- гэта ж каларытны персанаж, але ўжо ў іншай інтэрпрэтацыі: баба-яга -- рамантычная лятуценніца з добрымі задумлівымі вачыма... Такімі іх убачыла Віка Саган, маленькая дзяўчынка з Віцебска.**

**У пачатку года ў Віцебску ў музычнай гасцінай прайшла персанальная выстава юнай мастачкі. У мінулым годзе работы Вікі экспанаваліся ў Галандыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Вікторыя САГАН і яе творы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**





## ПОЛЫМЯ З НІЧОГА?

Міліцыя і пажарныя зафіксавалі ў Гомелі незвычайную прыродную з'яву.

Нацярпелася страху адна гомельская сям'я. Вярнуўшыся позна вечарам з дачы, убачыла ў кватэры незвычайную "ілюмінацыю". Спачатку загарэўся балкон. Гаспадыня і яе дваццацігадовы сын кінуліся тушыць пажар. Толькі паспелі справіцца з гэтай бядой, як заўважылі, што ўспыхнуў балкон на кухні. Паклікалі на дапамогу суседзяў.

А ў кватэры ўжо адбывалася неверагоднае. Не паспеюць патушыць агонь у туалеце, як загарыцца ў гасцінай. За кароткі час было зафіксавана больш чым 20 загаранняў. Выклікалі пажарных і міліцыю. Тыя са здзіўленнем назіралі, як з нічога ўспыхвала полымя. Прычым агонь дзейнічаў быццам бы па заказу: выбіраў мэблю і новае адзенне.

Відавочцы адзначаюць, што спачатку чулі патрэскванне. Потым -- пах серы, як ад запалак, і ўспыхвала жоўтае полымя, быццам бы гарэў порах.

Каменціруючы гэтую незвычайную з'яву абласной тэлерадыёкампаніі, старшы інжынер навукова-практычнага цэнтра пажарнай бяспекі ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы Гомельскага аблвыканкома Аляксандр Авяр'янаў падкрэсліў, што сам быў сведкам трох загаранняў у гэтай кватэры. Такога ў Гомельскай вобласці ён не памятае. Праўда, у літаратуры падобныя прыклады сустракаў. Але апісаныя выпадкі адбываліся выключна ў прысутнасці гаспадароў. Тут жа ўзгаранні бачылі суседзі, работнікі міліцыі і пажарныя.



**Дванаццаць самак і трое самцоў зуброў былі прывезены з Белавежскай пушчы ў Прыпяцкі радыяцыйна-экалагічны запаведнік, што ў Хойніцкім раёне. Размясцілі іх у натуральных умовах. За імі вядуць назіранні вучоныя запаведніка.**

**Якое ж было здзіўленне заолагаў, калі некалькі тыдняў назад яны ўбачылі, што статак зуброў павялічыўся да 19 асобін. Чацвёра маленькіх зубранят адчуваюць сябе добра і з задавальненнем скубуць разам з дарослымі зубрамі пасевы спецыяльна для іх рапс.**

**НА ЗДЫМКАХ: егер зубрагадавальніка Уладзімір ЛІНКЕВІЧ; папаўненне ў зуброўым статку.**



**Намеснік рэдактара Дзіяна ЧАРКАСАВА**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС: 220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 856. Падпісана да друку 12.8. 1996 г.**